№ 28 (3769)

9 красавіка 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АФІЦЫЙНА

## 19 красавіка Аляксандр Лукашэнка звернецца да парламента і народа

На 19 красавіка запланавана традыцыйнае выступленне Аляксандра Лукашэнкі ў Авальнай зале з пасланнем да парламента і беларускага народа.

Гэтая дата зафіксавана ў графіку работы Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі на красавік 2013 года.

Нагадаем, што ў сваім штогадовым звароце кіраўнік дзяржавы падводзіць вынікі развіцця краіны за 12 мінулых месяцаў, а таксама ставіць задачы перад органамі дзяржаўнай улады на бліжэйшую перспектыву. Па традыцыі завяршаецца гэтая сустрэча адказамі прэзідэнта на пытанні парламентарыяў.

Для цяперашняга складу Нацыянальнага сходу гэта будзе першая сустрэча з кіраўніком дзяржавы ў такім фармаце. Аднак ці адважацца заканадаўцы пытацца пра тое, што сапраўды хвалюе краіну?

## «Народная Воля» пацікавілася ў вядомых у нашай краіне людзей, якое пытанне яны задалі б Аляксандру Лукашэнку, калі б у іх была такая магчымасць?

**Валянціна Аліневіч, маці палітвязня Ігара Аліневіча:**

— Я спытала б у яго: што ён думае наконт неабходнасці пабудовы ў Беларусі прававой дзяржавы? Як ён сабе яе ўяўляе, ведаючы расповеды людзей пра парадкі ў СІЗА, пра тое, што людзей збіваюць у міліцыі, якімі сродкамі карыстаюцца для "раскрыцця" крымінальных спраў, як адбываюцца "справядлівыя" суды, што пытанне пра тры галіны ўлады выклікае ў лепшым выпадку ўсмешкі?.. Гэта ўсё, на яго думку, упісваецца ў паняцце прававой краіны? Ці мы можам ужываць выраз аднаго фермера: "Узровень трызнення ў нашай краіне перавышае ўзровень рэальнасці"?

**Аляксандр Ярашук, лідар Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў:**

— Якія праблемы вырашыў Дэкрэт №9 "Аб дадатковых мерах па развіцці дрэваапрацоўчай прамысловасці", які ўвёў у нашай еўрапейскай краіне прымусовую працу? Навошта было так ганьбіць сябе на ўвесь свет?

**Васіль Зданюк, галоўны рэдактар газеты "Свободные новости плюс":**

— Я б задаў пытане, якое задае амаль 80% нашых чытачоў: "Колькі будзе працягвацца рост цэн? Ці мы спрабуем дагнаць і перагнаць увесь свет па цэнах? Раней ішла гаворка, што трэба зраўняць цэны з расійскімі. Выраўнялі, нават па некаторых паказчыках і перагналі, за выключэннем ЖКГ ці там нейкіх цырульніцкіх паслуг і малочных прадуктаў. Дзе ж мяжа росту цэн? Ці ёсць яна ўвогуле? Дзяржава папаўняе такім чынам бюджэт за кошт насельніцтва, але ж гэта не можа працягвацца бясконца.

**Алег Стахаевіч, лідар незалежнага прафсаюза, які быў звольнены з прадпрыемства "Граніт":**

— Што перашкаджае кіраўніцтву Беларусі пачаць думаць катэгорыямі поспеху краіны і дзяржавы? Гісторыя даказала, што не можа быць паспяховай краіна, пабудаваная на падаўленні асобы, на самападмане. Чаму ж мы спрабуем зноў і зноў абвергнуць гістарычны вопыт свету.

**Сяргей Калякін, старшыня Беларускай партыі левых "Справядлівы свет":**

— Я раней меў магчымасць задаваць пытанні Аляксандру Лукашэнку і ніводнага разу не пачуў ад яго канкрэтнага адказу. Таму я ўвогуле не бачу сэнсу задаваць гэтаму чалавеку якое б то ні было пытанне. Ён ніколі не адказвае па сутнасці. Калі ён нешта кажа, то гэта не адпавядае рэчаіснасці. А слухаць нейкія опусы няма жадання.

**Любоў ЛУНЁВА.**

СУСЕДЗІ

## У Беларусь едзе міністр замежных спраў Латвіі

*10 красавіка ў Віцебску адбудзецца сустрэча міністраў замежных спраў Беларусі і Латвіі Уладзіміра Макея і Эдгарса Рынкевічса.*

Як паведамляе прэс-служба беларускага МЗС, кіраўнікі знешнепалітычных ведамстваў плануюць абмеркаваць "увесь спектр актуальных пытанняў, якія тычацца развіцця беларуска-латвійскага супрацоўніцтва ў палітычнай, гандлёва-эканамічнай і гуманітарнай галінах, а таксама ўзаемадзеянне па лініі Беларусь—ЕС".

Акрамя таго, бакі разгледзяць вынікі рэалізацыі міжурадавага пагаднення аб спрошчаным парадку ўзаемных паездак жыхароў прыгранічных тэрыторый Беларусі і Латвіі, якое набыло моц 1 лютага 2012 года. У межах візіту плануецца падпісанне дагавора аб рэжыме дзяржаўнай мяжы.

Праўда, даўно не сакрэт, што без вызвалення палітвязняў Беларусь не мае ніякіх шанцаў на наладжванне стасункаў як з Латвіяй канкрэтна, так і з Еўрасаюзам у цэлым. Таму эксперты чакаюць, што латвійскі міністр у чарговы раз будзе прыспешваць беларускі бок у рашэнні зняць гэтае пытанне з парадку дня ў адносінах з Еўропай. Некаторыя чакаюць, што палітвязні могуць быць памілаваны ўжо на Пасху. Так, былы кандыдат у прэзідэнты і былы палітвязень Аляксандр Казулін мяркуе, што "вызваленне адбудзецца ўлетку альбо ўжо ў маі".

**Ігар МАРОЗАЎ.**

АКЦЫЯ

## Заяўку на «Чарнобыльскі Шлях» перадалі ў Мінгарвыканкам

*Арганізатары просяць дазволу сабрацца 26 красавіка ў 18.00 на пляцоўцы каля кінатэатра "Кастрычнік".*

Пад заявай падпісаліся прадстаўнікі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Зміцер Кавалгін, грамадскага аб'яднання "Экадом" Таццяна Новікава, аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" Дзяніс Садоўскі, Партыі БНФ Рыгор Кастусёў і Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Анатоль Сідарэвіч.

Плануецца, што шэсце пачнецца ад кінатэатра "Кастрычнік" па праспекце Незалежнасці, потым вуліцай Сурганава да парку Дружбы народаў, дзе плануецца правесці мітынг. Плануецца, што адтуль людзі пойдуць да памятнага знака ахвярам Чарнобыльскай катастрофы, запаляць там свечкі і ўскладуць кветкі. Для правядзення шэсця арганізатары просяць вызваліць адну паласу праезнай часткі і забяспечыць магчымасць выкарыстання гукаўзмацняльнай апаратуры на мітынгу ў парку.

"Чарнобыльскі Шлях" упершыню адбыўся ў 1988 годзе. Былі памятныя даты, калі ўдзельнікаў шэсця збівалі, затрымлівалі, каралі арыштамі і штрафамі. У 2011 годзе ўлады забаранілі правядзенне вулічнага шэсця. Сёлета арганізатары шэсця спадзяюцца, што дазвол атрымаюць.

**Любоў ЛУНЁВА.**

УЧОРА

## Аголеныя дамы спадабаліся Пуціну і не спадабаліся ягонай ахове

*Актывісткі руху FEMEN зладзілі ў Гановеры акцыю падчас наведвання яе Уладзімірам Пуціным і Ангелай Меркель.*

Калі палітыкі стаялі ля стэнда кампаніі "Фольксваген", дзяўчаты выбеглі з-за агароджы, скінулі частку вопраткі і пачалі выкрыкваць на адрас кіраўніка Расіі нецэнзурныя заклікі. Гэтыя ж заклікі былі прадубліраваны ў іх на целах. Дзяўчат спынялі ахоўнікі, якія моцна перапалохаліся.



Сам Уладзімір Пуцін сказаў, што дзяўчаты і іхняя акцыя яму спадабаліся, але іхніх лозунгаў ён не расчуў. Сапраўды, фота засведчылі, што і Пуціна, і Меркель "голая акцыя" заспела знянацку. Тым не менш Ангела Меркель прызнала права жанчын на выказванне свайго пратэсту і сваіх поглядаў. Праўда, форма гэтага пратэсту ёй, канцлеру Германіі, не спадабалася.

У любым выпадку ўжо зразумела, што ніякага сур'ёзнага пакарання ўкраінскія дзяўчаты не панясуць. А ў нас бы, не выключана, і страляць пачалі...





ГРОМКОЕ ДЕЛО

## Дело Юрия Захаренко: 14 лет неизвестности

*Расследование по делу исчезновения экс-министра внутренних дел Юрия Захаренко снова продлили.*

В начале мая будет 14 лет, как пропал Захаренко, а окончательного ответа на вопрос, что случилось с Юрием Николаевичем и какими были последние минуты его жизни, как не было, так и нет.



За эти годы расследованием дела Захаренко занимались четыре следователя — **Светлана Байкова** (1999—2000), **Владимир Чумаченко** (2000—2003), **Сергей Кухаренок** (2003—2008) и **Юрий Варавко** (2008 — по настоящее время). Их судьбы, кстати, тоже сложились по-разному. Кто-то еще работает следователем, кто-то ушел из следствия, а кто-то сменил сферу деятельности. Некоторые следователи встречались с родственниками и представителями семьи Захаренко, другие таких встреч всячески избегали. И почти все присылали сухие отписки.

*— Мы вместе с женой Захаренко и его матерью на протяжении всего периода расследования подали больше 15 ходатайств и жалоб о предоставлении полной информации о ходе расследования уголовного дела,* — рассказывает юрист Олег Волчек. — *В указанных процессуальных документах мы прилагали информацию, полученную в ходе работы Общественной комиссии по розыску Юрия Захаренко, просили провести следственные действия по установлению лиц, которые могли быть причастны к данному преступлению.*

*За эти годы мы получили более 35 ответов от следователей. Все писали, что следствие ведется, а о его результатах нам сообщат после окончания предварительного расследования. До настоящего времени нам не представили никакого промежуточного ответа, в котором указывалось бы, кто был допрошен в качестве подозреваемых, какие версии отрабатывались и какие проводились следственные действия по объективному расследованию всех возможных версий.*

По словам Олега Волчека, с момента возбуждения уголовного дела следствие по делу Захаренко приостанавливалось только один раз — с 17 января по 24 июня 2003 года, а все остальное время следователи якобы проводили следственную работу.

*— Сегодня дело Захаренко ведет начальник отдела методического обеспечения предварительного следствия Следственного комитета Республики Беларусь подполковник юстиции Ю.В.Варавко,* — говорит Волчек. *— Недавно я как представитель семьи Захаренко получил уведомление о том, что предварительное следствие снова продлено до 24 июня 2013 года с традиционной припиской — "о результатах расследования будет сообщено дополнительно". Поэтому можно сказать, что семья экс-министра внутренних дел находится в полном неведении по поводу того, как ищут Захаренко.*

Напомним, что жена, две дочери и внуки Юрия Захаренко по-прежнему живут в Германии. А мать Ульяна Григорьевна в следующем году будет отмечать 90-летие.

*— Пусть Бог даст ей силы держаться*, — говорит Олег Волчек, который периодически наведывается в гости к Ульяне Григорьевне.

**Марина КОКТЫШ.**

ПРАТЭСТ

## Капкан

*Грамадзянка Польшчы, якую не выпускаюць з Беларусі, аб'явіла галадоўку*

Грамадзянка Польшчы Тэрэса Стшэлец, якая больш за месяц не можа выехаць з Беларусі, у панядзелак абвясціла галадоўку. Пра гэта "Польскаму радыё" паведаміў яе муж Яраслаў Стшэлец. Жанчына скардзіцца на беспадстаўнае затрыманне ў Беларусі і бяздзеянне ўлад Польшчы. Ліст з інфармацыяй пра пачатак галадоўкі яна перадала ў Консульства Польшчы ў Брэсце.

Гісторыя пані Тэрэсы сапраўды скандальная і нават для нашай рэчаіснасці неверагодная.

Летась жыхарка мястэчка Артэле Крулеўске, што пад Люблінам, на сваім аўтамабілі паехала на экскурсію ў Мінск. У Беларусі яе машына сапсавалася, і яна пакінула яе ў аўтамеханіка. Машынай без згоды спадарыні Тэрэсы і яе ведама скарыстаўся сын аўтамеханіка, якога затрымала міліцыя.

Машыну канфіскавалі, перадалі ў склад на мытню. У студзені адбыўся суд, які вырашыў, што аўто павінна быць перададзена ўладальніцы. Але праблема ў тым, што яшчэ да пачатку судовага працэсу мытнікі прадалі машыну Тэрэсы Стшэлец. Цяпер мытня згодна вярнуць грамадзянцы Польшчы грошы за гэты аўтамабіль, але паралельна на гэтую ж машыну налічыла ёй высокую мыту і падаткі. Пані Тэрэса адмовілася плаціць гэтыя грошы, бо лічыць, што ні ў чым перад беларускай дзяржавай не вінаватая. Наадварот, толькі пацярпела па гэты бок мяжы. У выніку беларускі бок ануляваў ёй візу і не выпускае з Беларусі.

ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

# А дзе ж той выхад? Дзе збавенне...

*Коласаўскія радкі тут невыпадковыя. Чаму?.. Па вяртанні ў Мінск са Століншчыны і пад уражаннем вясковага сходу, на якім прысутнічаў, наўскід адгортваю старонку бессмяротнай "Новай зямлі" і чытаю як не прарочае — фантастычна перакінутае з мінуўшчыны ў сучаснае:*

*А дзе ж той выхад? дзе збавенне*
*З няволі цяжкай, з паланення?*
*Адзін ён ёсць: зямля, зямля,*
*Свой пэўны кут, свая ралля:*
*То — наймацнейшая аснова...*

Дык што паклікала ў няблізкі свет, у "агурковую сталіцу" Беларусі, апетую рознымі СМІ? Паклікалі месцічы на вясковы сход... То чаму і не паехаць і не падзівіцца на зямны рай: там жа "людыны" — у Альшанах і Вялікім Малешаве — пачуваюцца заможна і сытна, у суладдзі з верай хрысціянскаю, з традыцыямі продкаў. Якраз на Століншчыне — паміж пустак-балот беларускай зямлі — захавана (як нідзе!) сапраўдная пяшчота і ласка да зямлі-карміцелькі, крэўная аддана́сць ёй "да магілы"... Паўсюль (які рэгіён ні вазьмі, нават усю астатнюю Брэстчыну) вёскі паміраюць ці ўжо аддалі Богу душу, а тут — нібыта Эдэм: закладваюцца новыя сады, цяплліцы-парнікі, узводзяцца сядзібы на ўзор еўрапейскіх; тут штогадова нараджаецца столькі маладых сямей і дзетак, што "дэмаграфічны мінус" краіны пачынае хістацца. Толькі ў вёсцы Альшаны больш за восем тысяч жыхароў, ды яшчэ ў Вялікім Малешаве — блізу дзвюх тысяч... Але самае кідкае нават не гэта: малешава-альшанскія сягнулі ўперад не толькі і не столькі ў багацці, колькі... у самапавазе, у годнасці сваёй, самадастатковасці. Некалі продкі цяперашніх вяскоўцаў казалі пра сябе няйначай як "палешукі мы, а не людзі...", а цяпер нашчадкі іх могуць даць фору тым, што жывуць у прысталічнай вобласці: не хаваюць праўдуматку ў кішэнях, не саромеюцца выказаць яе "вертыкальшчыкам" любога ўзроўню, гнуць сваё права на зямлю і ўласнае гаспадарства. І пры гэтым — ніякай зласлівасці ці непрымірымасці да апанентаў, наадварот — імкненне паразумецца, дасягнуць разумнага кансэнсусу. Увогуле — мо на генным узроўні — у тутэйшага жыхарства захавана не толькі зайздросная працавітасць, але і першародная людскасць, якая часам праяўляецца... у святой наіўнасці і даверлівасці. Вялікамалешаўскага ці альшанскага гаспадара-ўласніка нельга застрашыць, ні тым больш сагнуць у рог, затое можна... абдурыць. І тым умела карыстаюцца начальнікі — што мясцовыя, што губернскія, што на самым версе...



На сход!

### Як «пагутарылі» з прэзідэнтам

Летась у "агурковую Меку" — у самыя Альшаны — прыбыў на сваім "гелікоптары" сам Лукашэнка. Відаць, наспела, бо ў самай вялікай беларускай вёсцы Альшаны амаль 80% жыхароў... беспрацоўныя. Але — во дзіва! — жывуць лепш за цяперашніх "калгаснікаў" — такая, разумееш, загагуліна... Канечне, дзіва, канечне, трэба ва ўсім разабрацца: выслухаць тутэйшы народ, скіраваць энергію мас у правільным кірунку і ўсё такое. Памагчы, да прыкладу, мясцовым фермерам, розным іншым землеўласнікам. Першай асобе стала вядома, бачыце, што мясцовых тавараўвытворцаў крыўдзяць... расійскія аптавікі. На тую сустрэчу дужа спадзяваліся не толькі фермеры, але і зусім дробны люд, тыя, хто займаецца вырошчваннем агародніны на прысядзібных участках ды розных "цяплічных выселках". З таго і жывуць месцічы... Агуркамі, капустай, памідорамі тут займаліся яшчэ пры камуністычных Саветах, дармо што была забарона на продаж уласнай прадукцыі. А як рэжым ляснуўся, то палягчэла — усе адразу разбегліся з таго калгаса: хто (як браты Грыбы) пайшоў у фермеры, а хто "легалізаваў" сямейны агурковы бізнес... Прыватная ініцыятыва, прадпрымальнасць учарашніх калгаснікаў так папёрлі, што сюды пачалі з'язджацца на работу з іншых месцаў — з Жыткавічаў, Пінска, Століна, нават з Украіны... А "зялёная" прадукцыя альшанцаў-малешаўцаў запаланіла Маскву, Санкт-Пецярбург, Бранск, Мурманск і іншыя гарады.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

ЧУЛІ?

# Беларускі праваабаронца можа атрымаць 50 тысяч еўра

*Штогадовую прэмію “Абаронца грамадзянскіх правоў года” заснаваў Шведскі Хельсінкскі камітэт.*

Першую прэмію атрымала сербка **Наташа Кандзіч**, заснавальнік Прававаго гуманітарнага цэнтра.

Перад цырымоніяй узнагароджання слова ўзяў шведскі бізнесмен, даходы ад кампаній якога проста велізарныя. Дык вось ён штогод аддае каля мільёна долараў розным праваабарончым арганізацыям.

*“Я магу зарабляць грошы, але не магу і не ведаю, як зрабіць гэты свет лепшым,* — патлумачыў ён матывы сваёй дабрачыннасці. — *Таму даю гэтыя грошы праваабаронцам. Можа быць, у вас атрымаецца змяніць свет...”*

Праваабаронца Леанід Судаленка.

Як адзначалі падчас цырымоніі ўручэння прэміі, Наташа *“атрымала ўзнагароду за сваю ўпартую і бясстрашную працу па дакументацыі ваенных злачынстваў і сур’ёзных парушэнняў правоў чалавека ў былой Югаславіі, а таксама за падтрымку і дапамогу ў судовых працэсах аб ваенных злачынствах, збіраючы і падаючы доказы і сведчанні”. “З-за сваёй праваабарончай работы Наташы неаднаразова пагражала небяспека, аднак яе неспакой заўсёды быў перш за ўсё звернуты на ахвяр ваенных злачынстваў, а не сваю персону”.*

*“У Сербіі некаторыя лічаць Наташу здраднікам і хочуць яе смерці”,* — сказаў выканаўчы дырэктар шведскай праваабарончай арганізацыі Civil Rights Defenders **Роберт Хорд**.

Дарэчы, адкрываючы першую канферэнцыю “Дні праваабаронцаў” Роберт Хорд паставіў на сцэну пустое крэсла — як сімвал адсутнага на мерапрыемстве **Алеся Бяляцкага**, а таксама іншых калег-праваабаронцаў, якія не змаглі прысутнічаць у Стакгольме.

Дарэчы, імя Алеся Бяляцкага з вуснаў праваабаронцаў усяго свету гучала на канферэнцыі праваабаронцаў кожны дзень.

У кулуарах казалі, што Бяляцкі якраз можа стаць лаўрэатам наступнай прэміі “Абаронца года”. Ягоную жонку **Наталлю Пінчук** гэта не ўзрадавала.

*“Для мяне самае галоўнае, каб Алесь як мага хутчэй апынуўся на волі”,* — гаворыць яна.

## ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

# Таццяна РЭВЯКА: «Мяне спыніў верш...»

*На канферэнцыю ў Швецыю з’ехалася каля 200 праваабаронцаў. Беларуская дэлегацыя была адной з самых прадстаўнічых — каля 20 чалавек. Сярод іх — член савета Праваабарончага цэнтра “Вясна” Таццяна Рэвяка.*

— Існуе занепакоенасць сітуацыяй у Беларусі: Швецыя ад нас — усяго паўтары гадзіны лёту, — *гаворыць Таццяна Рэвяка.* — У нас упершыню такі знакавы праваабаронца ў турме. І Бяляцкага ў Стакгольме ўзгадвалі не проста так. Ён заслужыў гэта і сваёй працай, і тымі рызыкамі, якія паўставалі на ягоным праваабарончым шляху. Ён быў з місіямі ў гарачых кропках. Ездзіў на Кубу, наведваў арыштаваных калег у іншых краінах. Яго дапускалі ў турмы як віцэ-прэзідэнта міжнароднай федэрацыі.

Правы чалавека — гэта такая сфера міжнародных адносін, якая дазваляе ўмяшальніцтва адной краіны ў справы іншай. Калі хтосьці думае, што праваабаронцы ўсяго свету агрэсіўна настроены ў дачыненні да Беларусі, то на самай справе і беларускія праваабаронцы выказваюць занепакоенасць справамі ў іншых краінах. На гэтым выбудаваны міжнародны праваабарончы рух. І такія мерапрыемствы — перш за ўсё нагода сустрэцца з калегамі, якіх падчас і немагчыма пабачыць. Тым больш што некаторым з тых, хто быў у Стакгольме, забаронены ўезд у Беларусь.

**— На канферэнцыі шмат гаварылася пра абарону і бяспеку саміх праваабаронцаў...**

— Так, таму што апошнім часам у многіх краінах фіксуюцца выпадкі вельмі рэпрэсіўнага стаўлення да праваабронцаў. Напрыклад, у Чачні многія нашы калегі знаходзяцца проста ў жахлівейшых умовах. У адных краінах забіваюць праваабаронцаў, у другіх — садзяць у турмы. Гэта распаўсюджаная практыка. У Стакгольм прыехаў Алег Арлоў — яго на Паўночным Каўказе проста выкралі з гатэля, накінулі на галаву мяшок, вывезлі ў поле і сказалі: калі яшчэ раз цябе ўбачым, жывым не выйдзеш. І такія гісторыі адбываюцца, між іншым, не дзе-небудзь, а ў нашай саюзнай дзяржаве...

**— Першую прэмію “Абаронца года” атрымала сербка. Як думаеце, ці ёсць у беларусаў шанц атрымаць гэтую ўзнагароду?**

— Думаю, так. І дзякуй Богу, што Наталля з Сербіі сама змагла прысутнічаць на ўручэнні, а не пасмяротна гэта здарылася.

Дарэчы, вельмі шмат укладаецца ў гэтую прэмію. Гэта не проста грашовыя сродкі. Падобныя прэміі — гэта знакі ўвагі і павагі, заклапочанасці і падтрымкі, пэўны знак заклапочанасці, які выказваецца ў адносінах нават да ўсёй краіны.

**— Роберт Хорд заўважыў, што праваабаронцы і страх — гэта несумяшчальныя рэчы. Вам самой часта бывае страшна?**

— Канешне, бывае. Першая рэакцыя на страх вельмі эмацыянальная. Хочацца ўцячы, нейкія рэзкія дзеянні прадпрыняць. Потым уключаеш нейкае рацыянальнае мысленне, пачынаеш гэты страх аналізаваць, думаеш, як можна абысці небяспеку, а потым уздыхнеш і ідзеш далей...

На жаль, прыходзіцца ўвесь час знаходзіцца ў такім стане вострага адчування небяспекі — гэта праўда. І асабліва апошнія два гады гэта стала нейкім ладам, рысай, якасцю жыцця...

**— Калі арыштавалі Алеся Бяляцкага, вы сур’ёзна задумваліся аб тым, каб пакінуць Беларусь. І пра гэта вас прасіў і сам Бяляцкі...**

— Так. Алесь перадаў, каб я з’язджала. Не ведаю, якія ў яго былі звесткі наконт мяне; можа, нешта ў матэрыялах справы было... Для мяне гэта быў моцны ўдар, таму што я не хацела з’язджаць. Была няпростая сітуацыя: трэба дапамагаць Алесю, нешта рабіць для яго выратавання, а тут гэты ад’езд...

Што мяне спыніла? Не паверыце — верш. У мяне ў машыне ёсць дыск з японскай музыкай Дзмітрыя Вайцюшкевіча, і там перабіўкай ідуць вершы, якія чытае Адам Глобус. Я амаль не слухала гэты дыск, і ў той самы момант, калі стаяла пытанне аб тым, што трэба сесці ў машыну і сёння ж з’ехаць, я чамусьці ўключыла менавіта яго. Якраз ехала да дачкі развітацца. І тут чую верш... Я ўсе радкі на памяць не перакажу, але некаторыя добра памятаю:

*Тваe сябры ў далёкай старане*
*Пра Беларусь маркотна пішуць вершы*
*І спадзяюцца, што ты ім паверыш,*
*Ты не паверыш, ты не верыш? Не...*
*Яны не выйшлі на апошні бой,*
*Схаваліся, збаяліся загінуць,*
*У прыцемках пакінулі Радзіму.*
*Мы засталіся, засталіся тут, з табой.*

І вось гэты верш для мяне стаў як пасланне, якое прагучала менавіта ў той момант, калі мне трэба было прыняць вельмі адказнае рашэнне.

І я засталася тут.

Падкрэсліваю: гэта мая асабістая гісторыя, мой уласны выбар. Гэта не значыць, што я кагосьці асуджаю. Кожны сам выбірае лёс і ацэньвае ступень небяспекі для сябе і для сваёй сям’і...

Таццяна Рэвяка і Ларын.

## ЗАКУЛІССЕ

Канферэнцыя “Дні праваабаронцаў” доўжылася тры дні. На самы апошні дзень было прызначана выступленне пераможцы “Еўрабачання-2012” Ларын. Улетку Ларын, як паведамляла “Народная Воля”, прыязджала ў Беларусь. Яна не толькі выступіла на “Славянскім базары” ў Віцебску, але і правяла грунтоўную сустрэчу з беларускімі праваабаронцамі. **Валянцін Стэфановіч** нават падарыў ёй майку з выявай Алеся Бяляцкага. Да гэтага Ларын правяла такую ж сустрэчу ў Азербайджане. Здавалася б, столькі часу ўжо прайшло, столькі асоб за гэтыя дні прамільгнула перад спявачкай — не ўсіх і запомніш. Аднак у зале Ларын беспамылкова знайшла тых, з кім сустракалася ў Мінску і іншых краінах, і сама нагадала пра гэта. Яна яшчэ раз перадала словы падтрымкі Алесю Бяляцкаму і выказала салідарнасць яго жонцы Наталлі.

**Марына КОКТЫШ.**

ПУЛЬС

## Журналісты-экстрэмісты?

17 красавіка ў судзе горада Ашмяны будзе разглядацца справа аб прызнанні альбомаў “Прэс-фота Беларусі 2011” “экстрэмісцкімі матэрыяламі”. Нагадаем, што альбомы былі канфіскаваны на мяжы ў журналісткі Юліі Дарашкевіч.

Арганізатараў конкурсу лепшых фотаздымкаў выклікаюць у суд як “зацікаўленых асоб”.

Самае дзікунскае ва ўсёй гэтай гісторыі тое, што эксперты, нанятыя беларускім КДБ, назвалі “экстрэмісцкімі” фотаздымкі, якія атрымлівалі ўзнагароды і прэміі на самых розных прафесійных конкурсах.

## Сусветны банк заклікаў Беларусь да эканоміі

Для больш дынамічнага і ўстойлівага развіцця беларускім уладам варта працягнуць жорсткую бюджэтную палітыку, стрымліваць рост заробкаў і пенсій адносна іншых выдаткаў і прадукцыйнасці працы.

Пра гэта заявіў дырэктар аддзела Украіны, Беларусі і Малдовы Сусветнага банка Чымяо Фан на сумесным семінары ўрада Беларусі і Сусветнага банка.

Таксама Сусветны банк рэкамендуе Мінску скарачаць субсідыі і павышаць эфектыўнасць выдаткаў на адукацыю і ахову здароўя. На думку экспертаў, у Беларусі мала грошай выдаткоўваецца на прафілактыку захворванняў, затое потым вялікія сумы трацяцца на тое, каб лячыць хваробы.

## Пётр Рудкоўскі атрымаў прэмію імя Льва Сапегі

Сёлетнім лаўрэатам прэміі імя Льва Сапегі стаў беларускі тэолаг і багаслоў Пётр Рудкоўскі.

Адзначым, што прэмія імя Льва Сапегі прызначаецца польскім бокам за выдатны ўнёсак у фарміраванне і развіццё грамадзянскай супольнасці і пабудову незалежнай, дэмакратычнай Беларусі. Узнагароджаны можа на працягу года займацца навуковай працай у Польшчы.

На ўрачыстасці, якая прайшла ў Варшаўскім універсітэце, прысутнічаў кіраўнік польскага Сената Богдан Барусевіч, рэктар Варшаўскага ўніверсітэта Алёйзы Новак, дырэктар Цэнтра ўсходнееўрапейскіх даследаванняў Варшаўскага ўніверсітэта Ян Маліцкі і іншыя. Прэзідэнт Польшчы Браніслаў Камароўскі, пад патранатам якога прэмія існуе, перадаў сёлетняму лаўрэату свае віншаванні.

## Коней на пераправе не мяняюць

Старшынёй грамадскага аб’яднання “Саюз палякаў на Беларусі” абраны Мечыслаў Лысы. Такое рашэнне прынята дэлегатамі VIII з’езда арганізацыі, якія прайшоў у Мінску.

З сярэдзіны студзеня 2012 года Лысы выконваў абавязкі старшыні саюза пасля таго, як галоўны савет СПБ задаволіў заяву ранейшага лідара арганізацыі Станіслава Сямашкі пра адстаўку. Прычынай адстаўкі Сямашка ў заяве ўказаў “сямейныя абставіны”. Лысы на той момант быў намеснікам старшыні СПБ і ўзначальваў мінскае аддзяленне саюза.

Трэба адзначыць, што ў краіне існуюць два саюзы палякаў. Раскол у грамадскім аб’яднанні адбыўся ў 2005 годзе. З таго часу дзейнічаюць афіцыйны СПБ, зарэгістраваны Міністэрствам юстыцыі Беларусі, і неафіцыйны, які падтрымліваюць улады Польшчы. Неафіцыйны саюз узначальвае Мечыслаў Яскевіч.

ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

# А дзе ж той выхад? Дзе збавенне...

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

— Зямлі, зямлі нам не хапае...

Натуральна, людзі сталі жыць, а не выжываць... Цяпер ужо сталі думаць, як пашырыць сваё гаспадаранне, выходзіць на новы ўзровень. Але ўсё ўпёрлася ў зямлю, якой стала не хапаць ні фермерам, ні шараговым вяскоўцам-агароднікам. Месцічы і хацелі распавесці кіраўніку дзяржавы пра свой клопат, праблемы ды планы. Іван Васільевіч Грыб, да прыкладу, меўся паведаміць пра “мёртвыя” калгасы (СВК), якія неэфектыўна распараджаюцца зямлёю вакол Альшанаў. Людзі збіраліся прасіць Лукашэнку, каб гэтую зямлю перадалі ім. Але што атрымалася? Падчас візіту першага дзяржаўніка гэных самых “піянераў”-фермераў Століншчыны... зачынілі пад ахову ў мясцовай кавярні, літаральна за якія 70 крокаў ад вінтакрылай машыны... Вось як абмаляваў пасля тую “сустрэчу” сам Іван Грыб:

*“Нам не далі з прэзідэнтам пагутарыць. Не далі мясцовыя ўлады, бо баяліся, што фермеры будуць зямлю для сябе прасіць... Нас падманулі. Настолькі падманулі, што ажно шкода. Завезлі на наш рынак, загадалі прыбраць усе плакаты. Увогуле ўсё прыбраць. А пасля завялі ў кафэ і кажуць: як прэзідэнт прыляціць, то мы вас паклічам. Паставілі пяць ахоўнікаў ля дзвярэй. І ўсё. Прэзідэнт сеў, пачалася сустрэча. А мы, як дурні, чакаем. Чакаем, што паклічуць нас, бо не хочам ісці нахрапам”.*

Так і не дачакаліся аўдыенцыі, затое ўлетку прыехаў да палешукоў тагачасны кіраўнік лукашэнкаўскай Адміністрацыі Уладзімір Макей — па даручэнні Самога. Замест адведзеных дзвюх гадзін ледзь не чатыры ўнікаў у праблемы альшанцаў ды вялікамалешаўцаў, выслухваў “хадакоў”. Якія толькі пытанні не разглядаліся: добраўпарадкаванне вуліц, газаправод, пабудова школы, развіццё аграгарадка. Як быццам усё гэта не ў кампетэнцыі мясцовай улады. Зачапілі ўрэшце і галоўнае — зямельнае пытанне...

*“Прэзідэнт у курсе вашых праблем,* — заўважыў тады Уладзімір Макей. — *У іншай краіне з вамі так бы не размаўлялі, а прапанавалі заплаціць за зямлю вялікую суму. Неабходна знайсці кансэнсус. Адназначна, што забіраць зямлю ў СВК, які нядрэнна працуе і падтрымлівае вяскоўцаў, ніхто не будзе”.*

Кіраўнік Адміністрацыі нагадаў, аднак, што неабходна зрабіць-такі поўную інвентарызацыю зямель, скласці дакладныя схемы, каб людзі ведалі, якія ёсць магчымасці. Такая прапанова, маўляў, будзе ўнесена на разгляд Лукашэнкі. І ўсе гэтыя праблемы павінны быць вырашаны да восені, калі, магчыма, прэзідэнт зноўку наведаецца ў Альшаны...

### Мінула восень і зіма — кансэнсусу няма

Перад тым як з грамадою ўліцца ў “сход”, гутару з мясцовымі: ніхто не тушуецца, на кантакт ідуць лёгка, кажуць тое, што набалела. Абсалютную большасць турбуе адно: калі нарэшце “разрулююць” зямельнае пытанне?.. Падчас імправізаванага бліц-апытання лаўлю сябе на думцы, што Альшаны і аселіца — можа, адзіная ў краіне выспачка, дзе зямля для людзей усё яшчэ не падчарка. Паўсюль жа пануе іншае: былі калгасы, саўгасы, цяпер СВК, а сутнасць адна — зямелька на ўслужэнні не тых, хто яе абрабляе, а тых, хто рулюе з райвыканкамаў. Раней шчыравалі за працадні-палачкі, цяпер — за мізэрную зарплату. То хіба знойдзецца дурань, які стане выкладвацца на поўную катушку? Няма дурных...

Палешукі першымі адчулі-скемілі яшчэ на пачатку 1990-х, што іх дабрабыт — у іхных, а не чыіх іншых руках. Наколькі было свабоды, настолькі і падняліся. А далей — стоп-машына...

Але вернемся да сутнасці пытання: хто і чаму тармозіць развіццё індывідуальнай сельгаспрадпрымальнасці ў Альшанах і Вялікім Малешаве... Каб не расцякацца агульшчынай, прыводжу (амаль даслоўна) словы шараговага вяскоўца **Анатоля Флар’яновіча:**

*“Я нарадзіўся ў сям’і, дзе было 14 дзяцей... А цяпер у мяне сваіх васьмёра дзетак — і ўсім трэба скіба з маслам... Але не атрымліваецца: не хапае зямлі, каб усіх пракарміць, даць прыстойную адукацыю. І такіх шматдзетных сем’яў у Вялікім Малешаве — дзве сотні з гакам... Скажыце, як нам жыць? Ісці ў СВК “Палессе”? Але там усяго дзвесце працуючых, і болей не патрабуецца. А ў вёсцы — 970 працаздольных мужчын і жанчын... Куды ім падзецца, дзе абабіць капейчыну?*

*Колькі ні абівалі парогі райвыканкама, аблвыканкама, нават у Адміністрацыю прэзідэнта пацэлілі — безвынікова. Кажуць: вас ніхто не змушаў пладзіць гэтулькі дзяцей. А як разумець заклік прэзідэнта, ягоныя словы і абяцанкі ў падтрымку шматдзетных сем’яў?! І потым, мы ж не абібокі, не просім міласціну, а толькі кавалак зямлі — каб жыць са сваёй працы, множыць — даруйце за высакапарнасць — харчовую бяспеку краіны. Нам кажуць, што буйныя сельгаспрадпрыемствы — аснова сельскай гаспадаркі. Можа, яно і так, але не бывае, каб без гаспадара-ўласніка выходзіла нешта путнае, каб быў той нізкі сабекошт прадукцыі, высокая рэнтабельнасць і прыбытковасць. Пра гэта нават дзеці ведаюць... Калі баіцеся ўласніка — прыдумайце падатковы механізм, стымулы і матывацыю, каб і землекарыстальніку было выгадна, і дзяржаве. Але няма ні жадання, ні такіх разумнікаў — усё зводзіцца не да ініцыятывы, а да сляпога падпарадкавання: начальнік загадаў — выканаю, а як там выжываеце, шматдзетныя, — вашы праблемы.*

*Не сакрэт, што ўсе мы — хто не мае работы ў СВК — жывём са сваіх надзелаў. І яны — крыніца нашых прыбыткаў. Цяпер, бачыце, спахапіліся, што нібыта парушаецца закон аб землекарыстанні. А дзе ж вы былі ўсе мінулыя гады? Чаму тады, яшчэ раней, зямельныя ўчасткі выдаваліся з парушэннямі заканадаўства? Дзе была тая ўлада?.. Кажуць, раней вам хапала прысядзібных участкаў ды некалькі сотак у полі, а цяпер квапіцеся на большае. А магчымасцяў, маўляў, няма... Ды лухта гэта: прыедзьце не зімой, а ўлетку — і самі пабачыце, колькі тут гуляе свабоднай зямлі, проста ніхто не хоча пайсці людзям насустрач. Некаторых вяскоўцаў абвінавачваюць у тым, што яны нібыта самавольна захапілі кавалачкі зямлі, пабудавалі на тых “самазахопленых” парнікі... Адну жанчыну, у якой пяцёра дзяцей, нават прыцягнулі да судовай адказнасці — аштрафавалі. За яе заступіліся некаторыя члены сельвыканкама, прасілі хоць на гэтую весну пакінуць той самазахоп”, бо ўжо позна пераносіць парнік... Але наша “народная” ўлада ў асобе старшыні сельвыканкама рогам упёрлася, баіцца, што “самазахоп” адной ператворыцца ў ланцуговую рэакцыю — астатнія таксама пачнуць пашыраць свае надзелы. Канечне, людзі ўзрушаны... І іх зразумець можна, бо зямля для іх — адзіная крыніца, якая дазваляе жыць, гадаваць дзяцей, трымаць гаспадарку... Дайшло да таго, што адна шматдзетная маці, калі ёй уручалі ордэн Маці-гераіні, так і сказала: “Лепш бы далі замест ордэна кавалак зямлі, а ордэн пакінулі сабе...”*

### Сход

Альшанцы і вялікамалешаўцы былі нямала здзіўлены, колькі панаехала раённага начальства ў вясковы клуб — як не сорак чыноўнікаў. І на чале ўсіх — старшыня райвыканкама **Рыгор Пратасавіцкі,** які і вёў рэй, упэўнена кіруючы ўсімі...

Але напачатку, як і здавён, выслухвалі даклад старшыні Вялікамалешаўскага сельвыканкама **Таццяны Васюхневіч.** У лепшых традыцыях савецкай завядзёнкі яна агучыла дасягненні мясцовай улады і працаўнікоў, сыпала лічбамі і фактамі: колькі ўтрымліваецца кароў, авечак і коней; колькі выдаткавана мільёнаў на добраўпарадкаванне вуліц; колькі закуплена лішкаў малака ад людзей; як рэалізоўвалася праграма “Падтрымка” і аказвалася матэрыяльная дапамога ветэранам Вялікай Айчыннай вайны і воінам-інтэрнацыяналістам і ўсё такое іншае. Памятаю, як у камуністычныя часы з трыбун любілі паўтараць: “Достаточно сказать, что за отчетный период...” Гэтым разам — абышлося... І нават больш за тое — прагучала самакрытыка. У тым сэнсе, што заяўкі, якія паступаюць ад грамадзян у сельвыканкам на выдзяленне зямлі, павінны папярэдне разглядацца на Зямельнай камісіі. Але, па яе ж словах, і да цяперашняга часу гэтая камісія не працуе...

Канечне, зала адразу прачнулася, загула, нібы пчаліны рой. Яшчэ больш “пацяплела”, як стала выступаць начальнік землеўпарадкавальнай службы **Юлія Гайкевіч,** бо ўжо ж па справе: людзі прыйшлі не справаздачы слухаць, а зямельнае пытанне вырашаць... І ім паведамілі ўвесь расклад: сельвыканкамам вызначаны максімальны памер зямельнага ўчастка — 40 сотак на гаспадарчы двор. Шматдзетным даюцца ўчасткі на дзяцей ва ўзросце да 18 гадоў: у каго да пяці дзетак — па 5 сотак на кожнага; у якіх пяць і болей — па 10 сотак. Надзелы даюцца ў часовае карыстанне да пяці гадоў і перамяшчаюцца ў палях севазвароту. Таму штогадова праводзіцца іх частковая замена. Але з гэтым цяпер узнікаюць праблемы: участак спачатку трэба вызваліць ад парніка, а яго гаспадар не спяшаецца гэта рабіць, а часам і не лічыць патрэбным. Маўляў, карыстаўся ўчасткам раней і далей буду.

Так, у 2011 годзе ва ўрочышчы Рублёўскае ў сувязі з рамонтам нафтаправода землі, што ўваходзілі ў ахоўную зону, былі часткова заменены, але сёлета пачаўся самавольны захоп зямлі пад парнікі. І цяпер гэта — сапраўдная праблема...

Тут і пачалося: народ скеміў, што “вольніца” скончылася, што ўлада будзе надалей рабіць так, як лічыць патрэбным, значыцца, па існуючым заканадаўстве і ў адпаведнасці са сваімі рашэннямі. Ніхто не збіраецца паявлічваць надзелы за кошт зямель СВК. Ну і няхай сабе жыве і цвіце той сельгаскааператыў (яго і па сёння завуць калгасам, бо ад змены шыльды нічога ж не памянялася), але што рабіць астатнім людзям?.. Як толькі старшыня райвыканкама выказаўся ў абарону грамадскага сектара, маўляў, нікому не будзе дазволена “ўшчамляць” інтарэсы СВК, то народ загуў яшчэ болей. І тут падымаецца Анатоль Флар’яновіч ды на гуллівай хвалі грамады звяртаецца да старшыні:

***“Вось вы стаіце на абароне грамадскага сектара, а я вам задаю прамое пытанне: ці ведаеце вы, колькі працаздольнага насельніцтва ў нашым Вялікім Малешаве? 970 чалавек... А колькі працуе ў СВК? Усяго толькі 200, і вакансій — ніякіх... Адкажыце: куды падзецца 670 працаздольным мужчынам і жанчынам? Як ім жыць, з чаго?..”***

Ну, пасля гэтага пайшло і паехала: хтосьці ўнёс прапанову ўсе землі падзяліць, СВК расфарміраваць, на кожнага чалавека выдзеліць па 20 сотак... Але і “вертыкаль” не лыкам шытая, на ўсё ў яе адказ і сустрэчныя прапановы. “Так, — пагаджаецца старшыня Рыгор Пратасавіцкі, — вакансій ў грамадскім сектары не хапае, тады давайце думаць разам, як выходзіць са становішча. Давайце пабудуем яшчэ адну малочна-таварную ферму — ужо будзе 50 рабочых месцаў, ды механізаваны атрад — яшчэ 20...” Але такія захады-прапановы нікога не суцешылі. Яно і вядома: 70 рабочых месцаў — не робяць вясны... Значыцца, усё застанецца па-ранейшаму, хіба што парадак навядуць па-райвыканкамаўску: захопленыя кавалкі зямлі адбяруць, цяпліцы, што на месцы будучых пабудоў, разнясуць... Словам, выжывайце як можаце...

Сход нічога істотнага ў плане “зямельнага пытання” так і не вырашыў: ніякага падзелу зямлі (па едаках-душах) не дапушчана. Некалі бальшавікі абяцалі селяніну зямлю — абдурылі, стварылі калгасы, дзе і па сёння — усё наўкол калгаснае, усё наўкол маё... З тае пары так і павялося: калгаснае — значыцца, нічыё, безгаспадарскае, малаэфектыўнае. Толькі на сваёй зямлі селянін-вясковец — сапраўдны гаспадар! Але не чуюць Канстанціна Міхайлавіча, не чуюць:

*Зямля не зменіць і не здрадзіць,*
*Зямля паможа і дарадзіць,*
*Зямля дасць волі, дасць і сілы,*
*Зямля паслужыць да магілы,*
*Зямля дзяцей тваіх не кіне,*
*Зямля — аснова ўсёй Айчыне...*

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**

*Столінскі раён.*

НУ И НУ!

## Трем родинам служил?

*Управлением Следственного комитета по Могилевской области возбуждено уголовное дело в отношении жителя деревни Александрово Чаусского района.*

Военному пенсионеру инкриминируется совершение преступления по ч.4 ст.209 Уголовного кодекса Беларуси (мошенничество, совершенное в особо крупном размере).

По информации интернет-портала “Ежедневник”, до своего переезда в Беларусь подозреваемый жил в Севастополе и имел двойное гражданство — Украины и России. Уже на тот момент он получал сразу две пенсии от двух государств, но этого ему, похоже, показалось мало. Именно поэтому военный пенсионер в 1998 году переехал в Беларусь, получил вид на жительство, после чего предоставил в Чаусский районный военный комиссариат заведомо фиктивное личное дело, согласно которому ему полагалась выплата пенсии на территории Республики Беларусь как лицу, уволенному с военной службы. При этом бывший военный умолчал, что уже получает военную пенсию в Украине и России.

Исходя из документов, бывшему военному была предоставлена пенсия и в Беларуси, которую он добросовестно получал последние 15 лет. Общая сумма незаконного пенсионного обеспечения, полученного на территории Беларуси, составила свыше 100 миллионов рублей. Основная часть этой суммы была получена, когда белорусский рубль стоил в несколько раз меньше, чем сегодня, поэтому окончательную сумму понесенного страной ущерба можно смело умножать на три, а то и четыре.

В настоящее время информация о тройном военном пенсионере передана в соответствующие органы России и Украины, которые, надо полагать, также предъявят ему свои претензии по обману.

СЛЫШАЛИ?

## *Ничего не заработаем?*

*За 400 дней до старта чемпионата мира-2014, который пройдет в Минске, глава Федерации хоккея Беларуси **Евгений Ворсин** приоткрыл завесу финансовой тайны над подготовкой к этому мероприятию.*

*"Государство выделило нам ссуду в размере шести миллионов евро, — сказал Ворсин. — Спасибо горисполкому, они пошли нам навстречу, потому что у дирекции нет собственных средств. Но это возвратная ссуда... Затраты на проведение чемпионата мира в два раза превышают полученную ссуду. Оставшуюся часть нужно будет компенсировать продажей билетов. По бизнес-плану доход от продажи билетов должен составить 9,6—9,8 миллиона. Но это прогноз".*

ГАСТРОЛИ

# Сицилия увидит белорусскую «Жизель»

Балетная труппа Национального академического Большого театра оперы и балета Республики Беларусь во время итальянских гастролей, которые проходят с 8 по 15 апреля, впервые выступит на сцене Массимо Беллини — одного из старейших театров Сицилии.

Белорусские артисты привезли в Италию спектакль "Жизель, или Вилисы" Адольфа Адана в постановке народного артиста СССР Никиты Долгушина. Ожившую романтическую легенду о противопоставлении мира суровой действительности, где чувства героев невозможны, миру призрачному, в котором любовь побеждает смерть, представят ведущие солисты Большого.



Главные партии в спектаклях исполнят народные артисты Беларуси Игорь Артамонов и Людмила Кудрявцева, заслуженные артисты Республики Беларусь Юлия Дятко, Ирина и Олег Еромкины, Константин Кузнецов, лауреаты и дипломанты международных конкурсов Егор Азаркевич, Константин Героник, Валерия Вопнярская, Александра Чижик, солисты Татьяна Подобедова, Иван Савенков, Олег Турко, Людмила Хитрова.

Дирижер-постановщик — заслуженный деятель искусств Республики Беларусь Николай Колядко, художник-постановщик — народный художник России, лауреат Государственной премии Республики Беларусь Вячеслав Окунев, ассистент балетмейстера — Александра Тихомирова.

Всего белорусским турне предусмотрено 7 представлений.

БЕЛАРУСКІ ПАНТЭОН

# Невядомае паўстанне 1863 года

"За причастность к восстанию было казнено 128 человек; 12.500 было выслано в другие местности, в частности в Сибирь, 800 отправлено на каторгу. Учитывая, что следствием установлено участие в восстании около 77.000 человек, можно констатировать, что всего подверглось наказанию менее 1/5 участников восстания. Эти цифры показывают, что правительство не проявляло к восставшим той особенной жестокости, о которой впоследствии станет говорить советская историография".

Гэта цытата з рускамоўнай версіі артыкула пра студзеньскае паўстанне 1863 года ў сусветнай энцыклапедыі Wikipedia. Гэтаксама малююць паўстанне і многія гісторыкі Расіі (гл., напрыклад, газету Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі: mail.golas.by/post/142693/).

Патураюць розным расійскім "исследователям" і адзінкі нашых недасведчаных — ад урадавых журналістаў, выкладчыкаў ВНУ, да кіраўнікоў партый, рухаў, дзеячаў літаратуры і мастацтва. Іх імкненне вылучыць адзіную асобу Вінцэнта-Канстанціна Сямёнавіча Каліноўскага як змагара за нацыянальнае адраджэнне, не маюць нічога агульнага з маштабамі трагедыі нашага краю ў 1861—1869 гадах і з гэтым самым адраджэннем. "Лісты з-пад шыбеніцы", напісаныя Каліноўскім незадоўга да смерці, падаюцца як праграмны дакумент, у той жа час замоўчваецца яго роля ў арганізацыі масавага тэрору супраць суайчыннікаў, калі за адзін месяц кінжаламі забівалі да 600 нязгодных. Гісторыя захавала праніклівыя радкі Каліноўскага, але маці ці бацька, якія не хацелі адпускаць адзінага сына ў паўстанцы і перахоўвалі яго, часцей не маглі напісаць ніводнага радка і моўчкі прымалі смерць ад яго наёмных забойцаў. Такая ж кара спасцігала і шляхту за тое, што яна "несвядомая".

У адказ на запалохванні сяляне падаваліся ў створаныя расійцамі атрады паліцэйскіх-ратнікаў (дзе да ўсяго добра плацілі) і актыўна ўдзельнічалі ў пошуку і пакаранні паўстанцаў. Тысячы нашых суайчыннікаў за гэтую "працу" пазней былі ўзнагароджаны медалём "За усмирение польского мятежа". Напрыклад, у Патапавіцкім сельскім таварыстве Ігуменскага павета Мінскай губерні такіх "ардэнаносцаў" налічвалася 117 чалавек (звычайна таварыства аб'ядноўвала адну-тры вёскі).

Між тым як сяляне, так і беларуская шляхта апынуліся між двух агнёў: калі цівун не даваў належнага паўстанцам, яго забівалі яны, калі ж даваў корм каню, харч і адпачынак, то яго забівалі расійцы. Апошнія (а гэта не толькі рэгулярныя войскі, а і рознага роду ўраднікі, жандары, шпегі і г.д.) пры падаўленні паўстання дэманстравалі нечуваную жорсткасць. Руская аперацыя "по принуждению литвинов-белорусов к миру" насіла ўсе прыкметы злачынстваў пазнейшых атрадаў СС — спаленне вёсак, рабаванне маёмасці, паказныя пакаранні цераз павешанне і г.д.

Аб гэтым кніга "Маскоўская ўлада на Літве. 1863—1869", якую напісаў і выдаў у 1869 годзе непасрэдны ўдзельнік паўстання, а затым ссыльны вайсковец Фердынанд Чапліцкі. На працягу некалькіх гадоў ён збіраў і занатоўваў факты злачынстваў расіян на тэрыторыі Беластоцкай вобласці і Гродзенскай губерні. Прывяду з яе толькі некалькі ўрыўкаў.

"...Першыя граматы, якія адносіліся да вызвалення сялян, абвяшчалі маскоўскія папы, а паколькі ў граматах паведамлялася, што вызваленне сялян павінна адбыцца толькі пасля ўрэгулявання сялянскіх адносін, г. зн. праз два гады пасля абвяшчэння грамат, папы, каб пасварыць людзей з памешчыкамі, аб'явілі ім, што вызваленне лічыцца з дня абвяшчэння.

Сяляне, вядома, зразумелі гэта па-свойму, адразу перасталі адпрацоўваць паншчыну, плаціць аброк і чынш. Пра гэта стала вядома ўладзе, якая гэтага толькі і чакала, гэта магло паслужыць ёй сродкам для капання бездані паміж простым людам і рэштай народа. Пад выглядам таго, што гэтага дамагаюцца паны, распачаліся страшныя экзекуцыі, якія сотні сялян адправілі на той свет. Першыя выкананні прысудаў пачаліся перад Вялікаднем 1861 года. З Бельска, напрыклад, выправілі другі батальён Вялікалуцкага палка пад камандаваннем маёра Мацiёўскага. Ён рушыў у Брэсцкі павет, у мястэчку Камянец (Літоўскі) як цэнтральным пункце заклаў галоўную штаб-кватэру і адтуль ва ўсе бакі пасылаў выконваць катаўскія экзекуцыі. Першая адбылася ў Ямне. З усёй воласці сабралі сялян, прыбыло іх каля 1900. Затым, таксама туды, прыбыў з Гродна палкоўнік жандармерыі Праслаў. Палкоўнік прачытаў сялянам царскія граматы, патлумачыў іх не на карысць землеўласнікаў, а ў духу падбухторвання. Пасля, калі на яго заклік сяляне адказалі адмоўна, загадаў прыступіць да экзекуцыі. Больш за 200 сялян жудасна збілі — памiралі пад нагайкамі! Таму што кожнага білі да таго часу, ажно пакуль не сведчыў, што прымае граматы. Сямідзесяцігадовыя старыя гінулі пад бізунамі. Усіх білі аднолькава — старых і маладых. Енк, крык, плач жанчын і дзяцей і просьбы памешчыкаў не мелі ніякага выніку. У Ямне гэтымі забойствамі вызначыўся маёр Мацiёўскі. У гэты ж самы час Кутузаўскі полк вызначыўся такім жа варварствам у Беластоцкім павеце, дзе пры падобнай экзекуцыі пад бізунамі ў адной вёсцы сканала 16 сялян, а ў Камянцы палкоўнік Насарэўскі трох сялян засёк да смерці, а больш за 100 засталіся калекамі. У Пружанскім павеце ў кожнай вёсцы па некалькі, а то і больш за дзясятак чалавек забівалі да смерці.

Такім чынам маскалі забілі сотні і тысячы сялян, а потым засалі патаемных агентаў, якія падбухторвалі простых людзей супраць памешчыкаў, казалі ім, што за ўсе гэтыя пакуты павінны дзячыць сваім гаспадарам, якія прасілі аб гэтым цара".

Зразумела, што гэтыя ахвяры не ўваходзяць у лік тых 128, пра якіх згадваюць расійцы. Яшчэ б! Іх засеклі за два гады да паўстання.

Ну а што ж было ў час яго?

"У прысутнасці безабаронных уварваліся ў Рутку, атачылі палац і жылыя дамы шматлікіх распарадчыкаў, потым загадалі ўсім прысутным пайсці і выгнаць з дамоў каля 30 службоўцаў, а 70-гадовага старога, былога дарадчыка і даверaную асобу графіні Патоцкай, пана Міхалевіча, узяць між двух коней і даставіць галопам да сябе.

Пан Міхалевіч, высакародны, вельмі паважаны ва ўсім наваколлі стары, якога цягнулі паміж коней і даставілі Шахаву, без прытомнасці ўпаў на зямлю.

Прыгнаныя распарадчыкі паднялі з зямлі аблітага вадой і вылэцканага ў гразі старога.

З палаца, з якога нікога не выпускалі, пачуўся галасны крык жанчыны, потым рыданні і плач.

Камандзір паказаў казакам на аднаго са службоўцаў і крыкнуў: "Плёткі!" У імгненне вока няшчасную ахвяру павалілі на зямлю і без ліку каталі нагайкамі. Хутка зямля зачырванела крывёй, а цела пакрылася пісягамі.

"Колоти лучше! — крычаў камандзір на казакаў. — Колоти, а не то я велю тебя!.. Так всех буду колотить! До смерти этих мятежников!"

Расійскія афіцэры, перакананыя, што гэтым спосабам здабудуць невялікі водкуп, халодныя, як камяні, загадалі далей катаваць ахвяру.

— Ваше высокородие! — пашкадаваў казак. — Он помирает!

— Говно, черт его бери! Взять этого! — і паказаў на іншую ахвяру.

Праз гэты спосаб катавання, аж да калецтва (некаторыя хутка памерлі), прайшло тры дзясяткі служачых двара".

А вось прысуд вёсцы. Цытую: "Генерал Ганецкі, даведаўшыся з рапарта ваеннага начальніка палкоўніка Барэйшы, што Лукавіца неаднойчы прымала банды мяцежнікаў і не паведаміла пра гэта ні вайсковай уладзе, ні паліцыі, з-за чаго 9 верасня вайсковы аддзел панёс немалыя страты, загадвае: усю зямлю жыхароў Лукавіцы разам з усёй іх маёмасцю забраць у скарб, пасля гэтага вёску ўшчэнт спаліць і пасля выканання гэтага ўсіх без выключэння жыхароў, не зважаючы на пол і век, неадкладна выслаць у аддаленыя сібірскія губерні".

Згадзіцеся, нешта вельмі падобнае на дзеянні фашыстаў. Нехта запрэчыць: маўляў, перагінаю палку. Не, шаноўныя, палілі і з людзьмі! У семяціцкім палацы пана Феншау спалілі няшчасных кабет, усіх служак і 26 раненых паўстанцаў! Калі апошнія ратаваліся праз акно, іх калолі штыкамі і адкідвалі назад у полымя. Нельга чытаць пра гэта без жудасці. І гэта не адзінкавы факт.

Так што прабачайце, расійскія гісторыкі, але пішыце *праўду* пра варварства сваіх не вельмі далёкіх продкаў.

На вялікі жаль, генацыд у адносінах да ліцвінаў-беларусаў ніколі не быў ні абнародаваны, ні асуджаны. Як гэта ні дзіўна, але не асуджаны самім беларускім народам! Замест разважлівага даследавання катастрофы, абнародавання імён катаў і ахвяр, звестак пра матэрыяльныя і людскія страты мы кожны год маем на слыху толькі адно імя. Між тым многія іншыя кіраўнікі і непасрэдныя ўдзельнікі паўстання на тэрыторыі Літвы-Беларусі былі пакараны смерцю. Сярод іх апошні кіраўнік паўстання, дыктатар Рамуальд Траўгут (які, дарэчы, таксама вучыўся ў Свіслацкай гімназіі і які таксама пакінуў лісты з-пад шыбеніцы), арганізатар паўстання на Літве і начальнік аддзела паўстанцаў Сігізмунд Серакоўскі, кіраўнік паўстанцкага аддзела Раман Рагінскі, капітан генеральнага штаба Людвіг Звяждоўскі (кіраўнік паўстання на Магілёўшчыне), граф Леон Плятэр, які першым падняў штандар паўстання ў Віцебскай губерні, і многія іншыя. Кожны з гэтых смелых людзей мае права на ўшанаванне, мае права называцца героем. Але на мапе сучаснай Беларусі мы не бачым іх імён.

Аднак, калі мы спынімся толькі на героях, то чаго будзе варта наша сумленне ў адносінах да астатніх ахвяр? Сотні тысяч нашых суайчыннікаў пацярпелі ад расійскіх рэпрэсій і неаб'яўленай грамадзянскай вайны. Дзе наша памяць пра іх?

Аб чым бы добрым ні пісаў Каліноўскі, як бы ні заклікаў да навукі і працістаяння маскалям і як бы кінжалам ні падштурхоўваў да гэтага, але адарваць селяніна ад зямлі яму не ўдалося. Замест масавага ўзброенага выступлення адбываліся адзінкавыя сутычкі з войскамі. Паступова Польшча, дзе пачалося паўстанне, і патрыятычна настроеная шляхта, якая размаўляла па-польску (рускую мову яна ўспрымала як мову акупантаў), пры дапамозе расійскай прапаганды ў свядомасці простага люду пачала атаясамлівацца са злой сілай. Нацыя раскалолася на ўсходнікаў і заходнікаў. Гэта быў нечаканы, але вельмі прыемны вынік для расійцаў. Пры такім раскладзе ліцвіны назаўсёды пазбаўлялі сябе надзеі на паўнавартаснае нацыянальнае адраджэнне. Пасля паўстання 1863 года за згадку слова "ліцвін" тут жа наступала суровае пакаранне. Хаця, як вядома, міжнародная супольнасць, расійскія дэмакраты і Цэнтральны нацыянальны камітэт у Варшаве на чале з Яраславам Дамброўскім напярэдадні разглядалі вызваленне з-пад расійскага прыгнёту выключна як праблему *цэласнай* Рэчы Паспалітай, г.зн. палякаў сумесна з ліцвінамі-беларусамі. Гэтак жа разумеў праблему і створаны Літоўскі (чытай — беларускі) правінцыйны камітэт да прыходу Каліноўскага.

На пачатку XX стагоддзя, калі народы пакідалі расійскую турму, палякі яе хуценька пакінулі, а мы ўсё тапталіся на месцы. Палякі разлічвалі, што мы пойдзем разам з імі ў Рэч Паспалітую, жыць у якой нашы суайчыннікі ўрачыста і добраахвотна згадзіліся апошні раз на сейме 3 мая 1791 года (перад тварам чарговага расійскага захопу), аднак расійцы (а бальшавізм чыста іх вынаходства) і на гэты раз не пусцілі нас у Еўропу.

Сёння, калі Беларусь мае сваю незалежную дзяржаву, нацыянальная гістарычная навука не павінна ісці следам за легкадумнымі расійскімі гісторыкамі ці ўласнымі пустазвонамі. Наша гістарычнае палатно павінна адрозніваццa праўдзівасцю. У тым ліку і што тычыцца падзей студзеньскага паўстання 1863 года. На вялікі жаль, усё, што з ім звязана, нічога, акрамя магіл, нашаму народу тады не прынесла. Мы не перамаглі, міфічных асілкаў-заступнікаў у нас не аказалася. Гінулі людзі. Героі, поўныя ідэй, і антыгероі, як і простыя ахвяры той бойні, даўно спяць вечным сном. Пакладзём на іх магілы кветкі, а заўтра ўзвядзём ахвярам годны мемарыял. Упэўнены, супакоенаму сэрцу Вінцэнта-Канстанціна Сямёнавіча Каліноўскага там таксама адшукаецца месца.

Я заклікаю не тачыць нажы.

Будзем паважаць сябе за старажытную еўрапейскую нацыю. Мо тады і расійцы прабачацца за 1863 год.

**Віктар ХУРСІК.**

Приложение 1
к постановлению Министерства финансов
Республики Беларусь
31.10.2011 № 111

**БУХГАЛТЕРСКИЙ БАЛАНС**
На 1 Январь 2013 года

| | |
|---|---|
| Организация | ОАО "Викко" |
| Учетный номер плательщика | 300029572 |
| Вид экономической деятельности | 19300 |
| Организационно-правовая форма | открытое акционерное общество |
| Орган управления | |
| Единица измерения | млн.руб |
| Адрес | 210001 г. Витебск, Комсомольская, 5 |

| | |
|---|---|
| Дата утверждения | |
| Дата отправки | |
| Дата принятия | |

| Активы | Код строки | На 31 Декабрь 2012 года | На 31 Декабрь 2011 года |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| **I. ДОЛГОСРОЧНЫЕ АКТИВЫ** | | | |
| Основные средства | 110 | 2 652 | 2 007 |
| Нематериальные активы | 120 | - | - |
| Доходные вложения в материальные активы | 130 | - | - |
| В том числе: инвестиционная недвижимость | 131 | - | - |
| предметы финансовой аренды (лизинга) | 132 | - | - |
| прочие доходные вложения в материальные активы | 133 | - | - |
| Вложения в долгосрочные активы | 140 | 119 | 119 |
| Долгосрочные финансовые вложения | 150 | - | - |
| Отложенные налоговые активы | 160 | - | - |
| Долгосрочная дебиторская задолженность | 170 | - | - |
| Прочие долгосрочные активы | 180 | - | - |
| **ИТОГО по разделу I** | **190** | **2 771** | **2 126** |
| **II. КРАТКОСРОЧНЫЕ АКТИВЫ** | | | |
| Запасы | 210 | 649 | 365 |
| В том числе: материалы | 211 | 81 | 56 |
| животные на выращивании и откорме | 212 | - | - |
| незавершенное производство | 213 | 5 | - |
| готовая продукция и товары | 214 | | |
| товары отгруженные | 215 | 563 | 309 |
| прочие запасы | 216 | - | - |
| Долгосрочные активы, предназначенные для реализации | 220 | - | - |
| Расходы будущих периодов | 230 | 94 | 42 |
| Налог на добавленную стоимость по приобретенным товарам, работам, услугам | 240 | - | 3 |
| Краткосрочная дебиторская задолженность | 250 | 138 | 62 |
| Краткосрочные финансовые вложения | 260 | - | - |
| Денежные средства и их эквиваленты | 270 | 60 | 24 |
| Прочие краткосрочные активы | 280 | - | - |
| **ИТОГО по разделу II** | **290** | **941** | **496** |
| **БАЛАНС** | **300** | **3 712** | **2 622** |
| **Собственный капитал и обязательства** | **Код строки** | **На 31 Декабрь 2012 года** | **На 31 Декабрь 2011 года** |
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| **III. СОБСТВЕННЫЙ КАПИТАЛ** | | | |
| Уставный капитал | 410 | 311 | 311 |
| Неоплаченная часть уставного капитала | 420 | - | - |
| Собственные акции (доли в уставном капитале) | 430 | - | - |
| Резервный капитал | 440 | 6 | 5 |
| Добавочный капитал | 450 | 2 387 | 1 663 |
| Нераспределенная прибыль (непокрытый убыток) | 460 | 498 | 458 |
| Чистая прибыль (убыток) отчетного периода | 470 | - | - |
| Целевое финансирование | 480 | - | - |
| **ИТОГО по разделу III** | **490** | **3 202** | **2 437** |
| **IV. ДОЛГОСРОЧНЫЕ ОБЯЗАТЕЛЬСТВА** | | | |
| Долгосрочные кредиты и займы | 510 | - | - |
| Долгосрочные обязательства по лизинговым | 520 | - | - |
| Отложенные налоговые обязательства | 530 | - | - |
| Доходы будущих периодов | 540 | - | - |
| Резервы предстоящих платежей | 550 | - | - |
| Прочие долгосрочные обязательства | 560 | - | - |
| **ИТОГО по разделу IV** | **590** | **-** | **-** |
| **V. КРАТКОСРОЧНЫЕ ОБЯЗАТЕЛЬСТВА** | | | |
| Краткосрочные кредиты и займы | 610 | - | - |
| Краткосрочная часть долгосрочных обязательств | 620 | - | - |
| Краткосрочная кредиторская задолженность | 630 | 510 | 185 |
| В том числе: поставщикам, подрядчикам, исполнителям | 631 | 291 | 4 |
| по авансам полученным | 632 | 9 | 8 |
| по налогам и сборам | 633 | 16 | 17 |
| по социальному страхованию и обеспечению | 634 | 39 | 30 |
| по оплате труда | 635 | 150 | 102 |
| по лизинговым платежам | 636 | - | - |
| собственнику имущества (учредителям, | 637 | 1 | 7 |
| прочим кредиторам | 638 | 4 | 17 |
| Обязательства, предназначенные для реализации | 640 | - | |
| Доходы будущих периодов | 650 | - | - |
| Резервы предстоящих платежей | 660 | - | - |
| Прочие краткосрочные обязательства | 670 | - | - |
| **ИТОГО по разделу V** | **690** | **510** | **185** |
| **БАЛАНС** | **700** | **3 712** | **2 622** |

Руководитель ________ (подпись) **И.Г. Мацук** (инициалы, фамилия)

Главный бухгалтер ________ (подпись) **В.Г. Сошников** (инициалы, фамилия)

31.12.2012

Приложение 2
к постановлению Министерства
финансов
31.10.2011 № 111

**ОТЧЕТ**
**о прибылях и убытках**
**за январь - декабрь 2012 года**

| | |
|---|---|
| Организация | ОАО "Викко" |
| Учетный номер плательщика | 300029572 |
| Вид экономической деятельности | 19 300 |
| Организационно-правовая форма | открытое акционерное общество |
| Орган управления | - |
| Единица измерения | млн.руб |
| Адрес | 210001 г. Витебск, Комсомольская, 5 |

| Наименование показателей | Код строки | За январь - декабрь 2012 года | За январь - декабрь 2011 года |
|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| Выручка от реализации продукции, товаров, работ, услуг | 010 | 4 604 | 1 671 |
| Себестоимость реализованной продукции, товаров, работ, услуг | 020 | 4 456 | 1 492 |
| Валовая прибыль (010 – 020) | 030 | 148 | 179 |
| Управленческие расходы | 040 | - | - |
| Расходы на реализацию | 050 | - | - |
| Прибыль (убыток) от реализации продукции, товаров, работ, услуг (030 – 040 – 050) | 060 | 148 | 179 |
| Прочие доходы по текущей деятельности | 070 | 1 817 | 1 131 |
| Прочие расходы по текущей деятельности | 080 | 1 818 | 1 131 |
| Прибыль (убыток) от реализации продукции, товаров, работ, услуг (030 – 040 – 050) | 060 | 148 | 179 |
| Прочие доходы по текущей деятельности | 070 | 1 817 | 1 131 |
| Прочие расходы по текущей деятельности | 080 | 1 818 | 1 131 |
| Прибыль (убыток) от текущей деятельности (± 060 + 070 – 080) | 090 | 147 | 179 |
| Доходы по инвестиционной деятельности | 100 | - | - |
| В том числе: доходы от выбытия основных средств, нематериальных активов и других долгосрочных активов | 101 | - | - |
| доходы от участия в уставном капитале других организаций | 102 | - | - |
| проценты к получению | 103 | - | - |
| прочие доходы по инвестиционной деятельности | 104 | - | - |
| Расходы по инвестиционной деятельности | 110 | - | - |
| В том числе: расходы от выбытия основных средств, нематериальных активов и других долгосрочных активов | 111 | - | - |
| прочие расходы по инвестиционной деятельности | 112 | - | - |
| Доходы по финансовой деятельности | 120 | 39 | 55 |
| В том числе: курсовые разницы от пересчета активов и обязательств | 121 | 39 | 52 |
| прочие доходы по финансовой деятельности | 122 | - | 3 |
| Расходы по финансовой деятельности | 130 | 101 | 38 |
| В том числе: проценты к уплате | 131 | - | - |
| курсовые разницы от пересчета активов и обязательств | 132 | 72 | - |
| прочие расходы по финансовой деятельности | 133 | 29 | 38 |
| Иные доходы и расходы | 140 | - | - |
| **Наименование показателей** | **Код строки** | **За январь - декабрь 2012 года** | **За январь - декабрь 2011 года** |
| 1 | 2 | 3 | 4 |
| Прибыль (убыток) от инвестиционной, финансовой и иной деятельности (100 – 110 + 120 – 130 ± 140) | 150 | (62) | 17 |
| Прибыль (убыток) до налогообложения (± 090 ± 150) | 160 | 85 | 196 |
| Налог на прибыль | 170 | 20 | 46 |
| Изменение отложенных налоговых активов | 180 | - | - |
| Изменение отложенных налоговых обязательств | 190 | - | - |
| Прочие налоги и сборы, исчисляемые из прибыли (дохода) | 200 | - | 16 |
| Чистая прибыль (убыток) (± 160 – 170 ± 180 ± 190 – 200) | 210 | 65 | 134 |
| Результат от переоценки долгосрочных активов, не включаемый в чистую прибыль (убыток) | 220 | 724 | 977 |
| Результат от прочих операций, не включаемый в чистую прибыль (убыток) | 230 | - | - |
| Совокупная прибыль (убыток) (± 210 ± 220 ± 230) | 240 | 789 | 1 111 |
| Базовая прибыль (убыток) на акцию | 250 | 753 | 1 552 |
| Разводненная прибыль (убыток) на акцию | 260 | - | - |

Руководитель ________ (подпись) **И.Г. Мацук** (инициалы, фамилия)

Главный бухгалтер ________ (подпись) **В.Г. Сошников** (инициалы, фамилия)

31 декабря 2012

ОАО «Викко» УНП 300029572

**Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл. (017) 3286871. Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906 nv@promedia.by http://www.nv-online.info http://twitter.com/narodnaya_volya**

ISSN 2071-9647

9 772071 964000 13028

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**



**Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 8.04.2013 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 27170 экз. Заказ №1536.**